Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

8 красавіка 1998 года
СЕРАДА
№ 27 (107)
Наш індэкс 63834

ІВАЦЭВІЧЫ

НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

## Павага да мінуўшчыны

Новы музей этнаграфіі адкрыўся ў Волькаўскай сярэдняй школе. Увазе вучняў, педагогаў, наведвальнікаў прадстаўлены цудоўна аформлены кабінет з багатай экспазіцыяй прадметаў мінуўшчыны.

На стэндах, стэлажах, вітрынах змешчаны каўшы з лазы, з кораня елкі, прасы, ступы, збанкі, нацыянальнае адзенне: фартухі, карункапляценні, блузкі. Тут жа стаіць ткацкі станок, калыска. Мінулы час нібы ажывае, калі азіраеш гэтыя экспанаты.

Цікава тое, што такую ўвагу гэтай справе надала малады дырэктар школы А. А. Наскова, педагог, для якой Радзімай якраз з'яўляецца далёкая Масква, а Беларусь — дом часовы.

Такая ўвага справе адраджэнне з боку дырэктара-масквічкі і радуе, і здзіўляе.

На вялікі жаль, вельмі часта мы, беларусы, з поўным раўнадушшам праходзім міма родных каштоўнасцей, якія, здавалася б, у першую чаргу нас і павінны натхніць на пачэсную справу адраджэння.

## Хочаш дапамогу — адпрацуй чатыры дні

У раённым цэнтры занятасці насельніцтва зараз зарэгістравана 559 беспрацоўных. Гэта прадаўцы, повары, вадзіцелі, настаўнікі, слесары, інжынеры... З названай колькасці 426 жанчын.

Усе беспрацоўныя атрымліваюць грашовую дапамогу толькі пры адной умове: кожны з іх павінен адпрацаваць у месяц чатыры дні на грамадскіх работах.

Летась, напрыклад, у часовых работах удзельнічала звыш паўтысячы беспрацоўных. Частка з іх прыбірала вуліцы ў райцэнтры, астатнія ездзілі ў калгасы на заробкі — за бульбай і гароднінай.

Як жа будзе сёлета? Як паведалімі нам з раённага цэнтра занятасці насельніцтва, усе беспрацоўныя ў абавязковым парадку будуць прыцягвацца да грамадскіх работ. Праўда, на сакавік-красавік такія грамадскія работы не планаваліся.

Што ж, хочаш атрымаць дапамогу па беспрацоўю — ідзі працаваць, куды пашлюць, бо дзяржава не заўсёды можа гарантаваць сваім грамадзянам працу па набытай спецыяльнасці. Хаця ў Беларускай Канстытуцыі (1996 года) у артыкуле 41-м запісана: "Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантавана права на працу як найбольш годны спосаб самасцвярджэння чалавека, гэта значыць права на выбар прафесіі, роду занятказ і работы ў адпаведнасці з прызваннем, здольнасцямі, адукацыяй, прафесійнай падрыхтоўкай і з улікам грамадскіх патрэбнасцей... Прымусовая праца забараняецца, акрамя работы або службы, якая вызначаецца прыгаворам суда..."

## "Праметэй" супраць пажараў

Ужо другі год пры Івацэвіцкім раённым Доме дзіцячай творчасці працуе клуб юных пажарных "Праметэй". Клуб мае сваю эмблему, дэвіз, статут, першым пунктам якога значыцца вывучэнне пажарнай справы. Сваёй галоўнай мэтай клуб ставіць прыцягненне дзяцей і падлеткаў да аказання практычнай дапамогі органам дзяржпажнагляду ў папярэджанні пажараў. Усімі справамі клуба кіруе Савет, у складзе якога 15 чалавек. Тут прадстаўнікі АВПС, РАА, кіраўнікі гурткоў і самі гуртоўцы (найбольш актыўныя з іх).

Па ініцыятыве клуба "Праметэй", пад яго кіраўніцтвам праводзяцца шырокавядомыя нават у рэспубліцы конкурсы юных знаўцаў пажарнай справы сярод вучняў пачатковых класаў сярэдніх школ. Прадстаўнікі клуба сталі ініцыятарамі правядзення гульняў-спаборніцтваў і з выхаванцамі дзіцячых садкоў горада.

У маі запланавана правесці чэмпіянат клуба па пажарных відах спорту, у якім прымуць удзел каманды школ горада і каманда клуба "Праметэй". Хацелася назваць самых актыўных гуртоўцаў: гэта Андрэй Бахур, Дзіма Казак, Аляксандр Андрусовіч, Ваня Дубешка, Ілля Папека, Андрэй Макараў і іншыя рабяты.

Па выніках мінулага года работа Івацэвіцкага гарадскога клуба юных пажарных "Праметэй" прызнана абласнымі ўпраўленнямі пажарнай службы і адукацыі лепшай у вобласці. Гэта дае ўсе падставы меркаваць, што пажараў па віне дзяцей у Івацэвіцкім раёне стане меней.

Дарэчы, за мінулы год лепшымі ў вобласці былі прызнаны Інспекцыя дзяржпажнагляду Івацэвіцкага АВПС (нач. В. І. Бацкалевіч) і ВПЧ г. Косава (нач. Ю. І. Юрэвіч). Значыць, дзеці раўняюцца на дарослых.

БАРАНОВИЧИ

## Сами не справляются

Трудно поверить, что в Барановичах нет специалистов-землеустроителей для производства этих работ в полном объеме. Государственные службы перегружены. Но сколько инженеров с этой специальностью работают в городе! Об этом не подумали в исполкоме, а выдали лицензию двум инженерам из Минска. И вот уже два года они, правда, качественно и в срок, недорого, выполняют заказы по геодезии и землеустройству.

...Когда совхоз установил киоск под свой фирменный магазин и, наняв по договору местного землеустроителя, чтобы тот "нарисовал" схему подземных коммуникаций, исполком не принял проект, а выдал письменное предписание обратится к минским частным предпринимателям, вышеозначенным.

Нетрудно и задуматься...

БЯРОЗА

## Смаката... не па кішэні

Бярозаўскі сыраробчы камбінат прыступіў да выпуску дэлікатэснай прадукцыі, якая раней выпускалася толькі Брэсцкім малаказаводам. Гэта — тваражныя сыркі ў шакаладзе. Прадукцыя надзвычай смачная, але не кожны пакупнік будзе здольны набыць яе: 50-грамовы батончык каштуе 7.300 рублёў.

## Страшнае суседства

Ляснік Броннагорскага лясніцтва пры абходзе вызначанай тэрыторыі лесу знайшоў у яме ля "Дома паляўнічага" агалены труп жанчыны. Мяркуючы па тым, што цела пачало ўжо гніць, трагедыя адбылася ўжо пэўны час таму. Ля трупа знойдзены рэшткі згарэлага адзення, у вушах жанчыны — завушніцы.

Эксперты-крыміналісты зрабілі адназначны вывад: знойдзены труп не мае дачынення да прапаўшай у пачатку гэтага года настаўніцы Бярозаўскай СШ № 3. На пытанне, хто ж загінуўшая, як яна аказалася ля "Дома паляўнічага", адкажа следства. Па факту страшнай знаходкі лесніка, яе суседства з "Домам паляўнічага" ўзбуджана крымінальная справа.

● *ЯШЧЭ РАЗ АБ СПРАВЕ КУДЗІНАВА: ВЫТОКІ І ПРЫЧЫНЫ*

# ГОД ЗА КРАТАМІ

***З той пары, як быў арыштаваны дэпутат і прадпрымальнік Уладзімір Кудзінаў, мінуў год з лішкам. Газета СВАБОДА досыць падрабязна асвятліла судовы працэс, які адбыўся летась у жніўні. Нагадаем, што дэпутат У. Кудзінаў атрымаў 7 гадоў узмоцненага рэжыму па абвінавачванні ў даванні хабару маёру ДАІ.***

Апеляцыя Уладзіміра Кудзінава знаходзіцца цяпер на разглядзе ў Вярхоўным судзе. Але... Не сакрэт, што нашыя дзяржаўныя органы глядзяць на прадпрымальнікаў (за выключэннем тых, што з'яўляюцца «сваімі людзьмі» ў калідорах улады) як на «класавых ворагаў». Прычым, відаць, гэтыя «ўшывыя блохі» яшчэ павінны быць удзячнымі, што ім наогул дазваляюць існаваць, і сядзець моўчкі. А калі прадпрымальнік мае ўласныя погляды і не тоіць іх і да таго ж асмельваецца займацца палітычнай дзейнасцю, ідзе ў апазіцыю рэжыму – гэта ўжо страшэнны крымінал. За гэта дзяржава бязлітасна карае з усёй уласцівай ёй помслівасцю, каб іншым не было ахвоты. Супярэчнасці ў нарматыўных актах даюць магчымасць зачапіцца практычна за кожнага прадпрымальніка, а пануючы ў нас прававы «беспредел» дазваляе не надта зважаць на заканадаўчыя нормы. Узяць шэраг гучных крымінальных справаў апошняга часу: пры ўсёй вялікай розніцы паміж А. Клімавым, В. Старавойтавым і А. Пупейкам, іх аб'ядноўвае тое, што ўсе гэтыя людзі ў нашай дзікунскай эканоміцы здольвалі паспяхова рабіць справу і пры гэтым

(Заканчэнне на 2-й стар.).

# МЫ ВАС ЛЮБІМ!

## ХАВАНСКАМУ Ф. І.—75



Мы, супрацоўнікі "Газеты для вас", журналісты раёна, паліграфісты Івацэвіцкай друкарні ведаем Хаванскага Феафана Іларыёнавіча здавён, гады і гады. Ведаем яго як старэйшага газетчыка і старэйшага члена Саюза журналістаў. Добра вядомы ён нам як кіраўнік калектыву рэдакцыі і друкарні былой раённай газеты "Кастрычнік", як шматгадовы рэдактар гэтай жа газеты (рэдагаваў яе амаль 19 гадоў).

Лепшыя гады свайго жыцця Ф. І. Хаванскі аддаў раённаму друку. Цярплівы, з любоўю і чалавечай шчодрасцю ён гадаваў мясцовых журналістаў і паліграфістаў. Рэдакцыя і друкарня бадай што ніколі не ведала недахватку кваліфікаваных кадраў. Дзякуючы школе рабселькораў, многія юнакі і дзяўчаты рашылі прысвяціць сябе журналістыцы. Закончылі факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта і сталі на самастойны працоўны шлях у сродках масавай інфармацыі былыя селькоры "Кастрычніка" Кацярына Шрубейка, Галіна Пясецкая, Віталь Жук, Ганна Лабашэвіч, Уладзімір Каліноўскі, Мікалай Міхальчык, Яўгення Міраноўская, Васіль Слушнік, Людміла Руціч, Ларыса Малашэня... У сэрца кожнага з названых і неназваных тут былых рабселькораў рэдактар паклаў здаровае зерне грамадзяніна роднай Белай Русі. Амаль усе паліграфісты Івацэвіцкай друкарні працягваюць працаваць там жа і з удзячнасцю ўспамінаюць свайго рэдактара.

У Івацэвіцкім раёне — на прадпрыемствах прамысловасці і сельскай гаспадаркі, у будаўнічых і транспартных арганізацыях, калектывах розных устаноў — старэйшыя працаўнікі і жыхары яго ведаюць і ўспамінаюць як былога салдата Айчыннай вайны, як шматгадовага дэпутата раённага Савета, члена бюро былога райкама КПБ і, нарэшце, як рэдактара раённай газеты "Кастрычнік". У раёне няма ніводнага населенага пункта, дзе б ён не пабываў у якасці паўнамоцнага прадстаўніка мясцовай улады. Яго разважнасць, крытычна-аналітычны падыход да грамадскай справы добра памятаюць былыя старшыні калгасаў Белы, Русак, Кананові, Палхоўскі, Яськевіч і многія іншыя. Друкаваным словам і асабістым прыкладам ён служыў справе вырашэння наспеўшых задач.

Выйшаўшы на заслужаны адпачынак, Ф.І. Хаванскі не змог застацца ў баку ад жыцця раёна. На працягу 13 гадоў кнігалюбы раёна выбіралі яго адказным сакратаром дабравольнага таварыства "Кніга". І на гэтай пасадзе ён вёў актыўную работу па прапагандзе кнігі — крыніцы чалавечых ведаў. У той жа час не парываў сувязяў з раённым друкам, унёс свой пэўны ўклад у стварэнне раённай кнігі "Памяць", піша свой жыццяпіс. Адначасова праяўляў сябе ў грамадскай дзейнасці, удзельнічаючы ў рабоце раённай ветэранскай арганізацыі. У апошнія гады праяўляе сябе ў меру сіл у складзе савета Беларускага таварыства інвалідаў Івацэвіцкага раёна, быў дэлегатам 2-га з'езда БелТІ.

У нялёгкія пасляваенныя гады Феафан Іларыёнавіч стварыў сям'ю і вось ужо 50 гадоў ідзе поруч са сваёй любімай Нінай Іванаўнай. Яны выгадавалі два сыны і дачку, маюць восем унукаў, аднаго праўнучка.

Шаноўны Феафан Іларыёнавіч! Калектывы рэдакцыі "Газеты для вас" і Івацэвіцкай друкарні сардэчна віншуюць Вас з юбілеем — 75-годдзем з дня нараджэння! Адначасова віншуем Вас і Вашу Ніну Іванаўну з залатым вяселлем! Дай Бог Вам здароўя і сямейнага дабрабыту!

Мы памятаем Вас з удзячнасцю. Мы Вас любім!

*Калектыў рэдакцыі "Газеты для вас" і Івацэвіцкай друкарні.*

ЯШЧЭ РАЗ АБ СПРАВЕ КУДЗІНАВА: ВЫТОКІ І ПРЫЧЫНЫ

# ГОД ЗА КРАТАМІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

(у той ці іншай ступені) быць «палітычна ненадзейнымі». Цяпер ужо відавочна, што тут маецца выразная тэндэнцыя. Але «першай ластаўкай» за наканавана стаць менавіта Уладзіміру Кудзінаву.

## Што гавораць людзі

Адкрыццё ў канцы 1992 г. гандлёва-прамысловай фірмы «Івацэвічы» пад кіраўніцтвам У. Кудзінава сталася для жыхароў раёна сапраўдным падарункам. І тут няма перабольшвання. У пацвярджэнне можна было б прывесці вялікую колькасць лічбаў, у якіх адлюстраваная дзейнасць фірмы – але не хочацца прыпадабняцца ўладам. Цяперашні рэжым выдатна засвоіў любімы прыём савецкага кіраўніцтва: нягледзячы на тое, што эканоміка яўна падае, паказчыкі ў справаздачах няўхільна ўзрастаюць. Між тым, рэальны паказчык эканамічнага стану – гэта багацце асартыменту тавараў у крамах і тое, як гэтае багацце суадносіцца са змесцівам кашалькоў. Таму ўладарам кашалькоў і слова.

Леанід Русак, беспрацоўны: «Магазіны, якія ён адчыняў, яшчэ і цяпер у народзе называюць «кудзінаўскімі». Калі яны паадчыняліся, я заўважыў, як высцясняецца спажыўкааперацыя, і зрабіў выснову, што гандаль павінен быць толькі прыватным. Тады ў магазінах былі нормы выдачы прадуктаў у адны рукі. А ў Кудзінава – колькі хочаш, столькі бяры. У адрозненне ад дзяржгандлю, у кудзінаўскіх крамах не бывала недавесаў. У яго працавалі вельмі ветлівыя дзяўчаты. Быў харошы асартымент. Больш двух дзён мяса ў магазінах не трымалі. Таму, калі пачалося вылучэнне Кудзінава ў дэпутаты, у Івацэвіцкім раёне быў цэлы рух за яго. Бо мы бачылі, як ён працуе».

Вячаслаў Гарчакоў, электрык вузла сувязі: «Калі працавалі магазіны Кудзінава, было вельмі зручна. Тады ж павальны дэфіцыт быў – а ў яго многа было тавараў, якіх у іншых магазінах не было. І па нізкіх цэнах».

Таццяна Цырковіч, чыгуначны дыспетчар: «У кудзінаўскіх магазінах па невялікіх цэнах можна было купіць і прадукты, і імпартныя тавары – шмат такога, чаго раней у продажы не было».

Якім чынам дасягаўся гэты дабрабыт, мне распавёў былы супрацоўнік фірмы Станіслаў Казловіч – ён сам, як толькі падыходзіў сезон, займаўся закупкай свежай садавіны ў Малдавіі. У кудзінаўскіх магазінах у Брэсце, Бярозе, Івацэвічах і Івацэвіцкім раёне пастаянна было каля 20 гатункаў каўбасных вырабаў, для чаго ў падсобнай гаспадарцы ў штодзённым абароце знаходзілася 825 галоў буйной рагатай жывёлы і 535 свіней.

Дарэчы, падсобную гаспадарку Кудзінаў купіў у Брэсцкага аблсельбуда. На дагаворы побач з подпісам Уладзіміра Кудзінава стаіць подпіс «брэсцкага будаўніка» Пятра Пракаповіча, нядаўна прызначанага старшынёю Нацбанка. Па сведчаннях відавочцаў, гаспадарка знаходзілася тады ў заняпадзе. Ды і хто б прадаў прыбытковую? Пра «цукерку», якую зрабіў з гэтай гаспадаркі Кудзінаў, маюцца захапляльныя водгукі нават у афіцыйнай прэсе. Вось што пісала ў свой час абласная «Заря»: «Звязаўшы ў адной упражцы сельгасвытворчасць і гандаль, Уладзімір Кудзінаў дэманструе выдатныя вынікі». Матэрыял падмацаваны фотаздымкамі гэтай гаспадаркі.

Цяперашні стан калісьці квітнеючай гаспадаркі – жудасны. Ад яе засталіся толькі сцены. Абсталяванне ў асноўным пакралі, астатняе – паламанае і раскурочанае, будынкі стаяць без вокнаў, без дзвярэй. Гаспадарка была сканфіскаваная на карысць дзяржавы і кінутая на волю лёсу.

## Як пачыналася разбурэнне

Узмоцненыя праверкі гаспадарчай дзейнасці Кудзінава пачаліся, калі ён быў вылучаны кандыдатам ў дэпутаты Вярхоўнага Савета. Тады ж, па сведчаннях людзей, што дапамагалі яму пад час перадвыбарчай кампаніі, распачаўся і ціск іншага кшталту – ад мудрагелістых плётак пра Кудзінава да пагрозаў членам ініцыятыўнай групы. Праўда, супрацоўнік райвыканкама, які прасіў не называць ягонага прозвішча, сцвярджае, што ўлады Кудзінаву ніяк не перашкаджалі, як і не мелі нічога супраць ягонай гаспадарчай дзейнасці – няхай бы, маўляў, правільна плаціў падаткі, і ўсё было б нармалёва. Аднак факт застаецца фактам: 24 кастрычніка 1994 г., за дзень да афіцыйнай рэгістрацыі Кудзінава ў якасці кандыдата, па ягонай гаспадарцы і гандлёвых пунктах пракацілася праверка, якой свет не бачыў – 120 кантралёраў! Амаль цэлы батальён праверальшчыкаў, па ўсіх правілах вайсковай дыслазіцыі, рухаўся з трох напрамкаў – з Баранавічаў, Пінска і Брэста. Нягледзячы на такую наступальную моц, нічога супрацьзаконнага тая праверка не выявіла.

Затое праз год пасля гэтага раённая падатковая інспекцыя вырашыла, што Кудзінаў не даплаціў падаткі і дапусціў парушэнні ў касавых аперацыях. Усе абвінавачванні наконт падаткаў адхіліў Брэсцкі абласны гаспадарчы суд. А што да касавых аперацыяў... Справа ў тым, што нейкая асоба заплаціла грошы за мяса праз касу кудзінаўскага магазіна, а не праз банк. А паколькі сума была вялікая – зрабілі выснову, што яна ніяк не можа належаць фізічнай, а толькі юрыдычнай асобе. Аднак не буду стамляць чытачоў падрабязнасцямі і ацэньваць, наколькі пазіцыя інспекцыі абгрунтаваная. У наяўнасці вынік: прыбытковая гаспадарка, якая давала столькі карысці людзям у «дбайных» дзяржаўных руках проста загінула.

Мне так і не ўдалося высветліць, хто нясе адказнасць за раскрадзеную маёмасць і за цяперашні стан гаспадаркі. У райвыканкаме сказалі, што яны не маюць да гэтага ніякага дачынення – продажам сканфіскаванай маёмасці павінна займацца падатковая інспекцыя. Начальнік падатковай інспекцыі Клаўдзія Мельнікава падкрэсліла, што згодна з указам прэзідэнта адпаведная камісія, якой належыць займацца продажам, павінна быць створаная якраз пры райвыканкаме. Такім чынам, гаспадарка, кошт якой, дарэчы, быў ацэнены ў суму 12.923 млрд. рублёў (што амаль у тры разы перавышае суму штрафу за парушэнне касавых аперацыяў), практычна сталася нічыйнай.









*Прайшло крыху больш за год, і знешне падсобная гаспадарка У. Кудзінава ля вёскі Гічыцы выглядае здалёк прыстойна. А на тэрыторыі гаспадаркі — поўны развал: выбітыя вокны, адарваныя дзверы, скурожаныя дэталі бензазапраўкі. Усё тут сведчыць аб рэвалюцыйнай свядомасці і "гаспадарчасці" тых, хто адабраў гаспадарку ў гаспадара і перадаў яе... на рабаванне ўсім, хто толькі не лянуецца.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

## Карысць была для ўсіх

Каму ад разбурэння гаспадаркі стала лепей? Каму перашкаджала прадпрымальніцкая дзейнасць Кудзінава? Яна ж прыносіла дзяржаве толькі карысць, прычым шмат па якіх параметрах. Былі задаволеныя спажыўцы (якраз гэты фактар, а не нейкія абстрактныя лічбы, з'яўляюцца паказчыкам пасляховасці эканамічнай дзейнасці). Меркаванняў пра дзейнасць Кудзінава, падобных вышэйпрыведзеным, мне давялося пачуць у Івацэвічах вельмі шмат — гэта агульнапрынятая думка. Менавіта з гэтай прычыны У. Кудзінаў атрымаў пераканаўчую перамогу на выбарах. А калі трапіў пад суд, сотні людзей падпісаліся пад зваротамі, каб яго не пазбаўлялі волі.

Акрамя таго, фірма Кудзінава забяспечвала ў раёне 350 працоўных месцаў. Працаю і заробкамі людзі былі задаволеныя. «Я ўжо пяць месяцаў без працы. Раней нам усе зайздросцілі, — а цяпер я зайздрошчу тым, хто мае работу», — гаворыць былы супрацоўнік фірмы Мікалай Гарэлік. «Мы ўсе працавалі з энтузіязмам, было жаданне зрабіць як мага лепш. А пасля Кудзінава, каб выраўнаваць сітуацыю, сталі даваць датацыі – раней у гэтым не было патрэбы», — кажа намеснік дырэктара «кудзінаўскага» магазіна Ала Рыштакова. «Умовамі працы і заробкамі я быў задаволены,— гаворыць Станіслаў Кучынскі, які працаваў грузчыкам на сховішчы фірмы. – Кудзінаў прыемны і добры чалавек, які заўсёды ўважліва выслухоўваў, калі прыйдзеш да яго са сваімі праблемамі. Калі прыйшла вестка, што Кудзінава арыштавалі, я быў вельмі ўражаны. На мой погляд, гэта была загадзя спланаваная акцыя супраць яго».

Памятаюць у Івацэвічах і пра велізарную дабрачынную дзейнасць Кудзінава. Ён дапамагаў раённай бальніцы, царкве, дзіцячым садкам, школе (ад рамонту будынка да стыпендыяў старанным вучням), інвалідам і ветэранам вайны. Жыхары гарадка прыгадваюць, што малазабяспечаныя людзі маглі проста прыйсці да Кудзінава – і ён не адмаўляў у матэрыяльнай дапамозе.

Штогод У. Кудзінаў плаціў дзяржаве дзесяткі тысячаў долараў падаткаў. Здавалася б, дзяржава павінна берагчы і шанаваць такіх людзей, як Уладзімір Кудзінаў. Гэта асабліва актуальна зараз, ва ўмовах чарговага эканамічнага абвалу. Такога б не было, калі б эканоміка ў кожным раёне краіны абапіралася на сваіх кудзінавых. Аднак негатыўнае стаўленне дзяржаўных органаў з самага пачатку дыктавалася тым, што сістэма дзяржаўнага гандлю не вытрымлівала, ды і не магла вытрымаць, канкурэнцыі з руплівым гаспадаром, якім быў Кудзінаў. А пасля да гэтага дадаліся яшчэ і палітычныя матывы.

«Напрошваецца заканамернае абагульненне: вопыт фірмы «Івацэвічы» універсальны», — пісала тая ж брэсцкая «Заря» ў 1995 г. (артыкул называўся «Формула сумленнага бізнесу»). Аб'ектыўна яно, мабыць, і правільна – але па нашых умовах нікому не пажадаем пераняць гэты вопыт. Бо ў беларускай формуле пасля сумленнага бізнесу ставіцца знак роўнасці і вычэрчваюцца ў турэмныя краты.

## За што пасадзілі

«Што тычыцца падсобнай гаспадаркі – не трэба асабліва шкадаваць і хвалявацца, таму што ўсё гэта ў жыцці яшчэ можна зрабіць. Галоўнае ў жыцці – гэта фізічнае здароўе і здароўе думкі. Усё астатняе будзе дасягнутае», — піша Уладзімір Кудзінаў з турмы сваім дочкам.

Уладзімір Кудзінаў быў асуджаны за даванне хабару. Не хачу спыняцца на тым, што ў аснову доказаў на гэтым працэсе быў пакладзены дыктафонны запіс, зроблены незаконным чынам, на якім экспертыза не змагла «выключыць прыкметаў мантажу», роўна як і на масе працэсуальных парушэнняў – у свой час я пісаў пра гэта даволі падрабязна.

Але рэч нават не ў тым, што віна Уладзіміра Кудзінава падчас судовага працэсу рэальна не была даказаная... Памятаю, па расійскіх СМІ праходзіў скандальны сюжэт: у грузавіку са спіртовымі напоямі, на якія не было дакументаў, журналісты праехаліся па 25 пастах ДАІ, на кожным з якіх прапаноўвалі хабар. На 24 пастах гэты хабар узялі! Калі і можна сцвярджаць, што ў Беларусі прынцыпова іншая сітуацыя, дык хіба толькі ў тым, што ў нас гэтых журналістаў абавязкова б пасадзілі.

Другі прыклад: праводзілася апытанне сярод бізнесменаў, якія ацэньвалі стан карумпаванасці чыноўнікаў у розных дзяржавах па 10-бальнай шкале. Каля 10 балаў набрала Новая Зеландыя (г. зн. там практычна не бяруць хабару), адзін бал з хвосцікам быў у Нігерыі (без хабару там кроку не ступіш). Беларусь у гэтым апытанні не фігуравала, а Расія набрала 3 балы – не надта адышла ад Нігерыі. Ізноў жа: наўрад ці ў нас становішча значна лепшае за Расію. Але галоўнае ў тым, што нікому ж не прыйшло ў галаву лічыць заходніх бізнесменаў, што вымушаныя былі даваць гэтыя хабары, злачынцамі. У карупцыі заўжды вінаватая сістэма, якая стварае ўмовы для ўсяўладдзя чыноўнікаў, і злачынцамі з'яўляюцца асобы, якія, карыстаючыся службовымі пасадамі, бяруць хабар. Але не людзі, якія мусяць працаваць у рамках сістэмы і падпарадкоўвацца ўмовам, пры якіх без хабару нічога не зробіш.

Нават не самым адукаваным жыхарам Івацэвічаў выдатна зразумела, за што на самой справе пасадзілі Уладзіміра Кудзінава. «Каб ён супраць Лукашэнкі не галасаваў – дык і зараз ягоная гаспадарка працавала б» – так кажуць тутэйшыя жыхары.

*В. КАЗНАЧЭЕЎ.*

*(«Навіны»).*

● *ТОЧКА ЗРЕНИЯ*

# МОСКВА ВЫБИРАЕТ ДЛЯ БЕЛАРУСИ ЕЕ БУДУЩЕЕ

Кадровые перестановки в руководстве России за последнее время довольно значительно скорректировали политику этой страны в отношении Беларуси. Причем эта коррекция, несомненно, окажет влияние не только на политическое будущее Беларуси, но и сможет существенно изменить судьбу каждого гражданина республики и ее президента.

Кадровые перестановки в Кремле можно разделить на три группы:

1. Явные, официально декларируемые.
2. Скрытые в сфере внутрироссийской теневой политики.
3. Скрытые в сфере внешней политики.

Неофициально известно, что руководство России намерено собрать долги с Украины и Беларуси за газ и нефть. Причем собрать деньгами, прекратив практику бартера, когда за энергоносители с Россией расчитывались товарами. Подобное направление деятельности имеет две функции — как способ политического давления на Лукашенко и Кучму, а также возможность диктовать им условия партнерства, и как средство стабилизации российского бюджета.

То, что эти две функции основные, доказывает выступление А. Чубайса, тогда еще – первого вице-премьера, по телевидению в передаче «Герой дня». Он подверг резкой критике А. Лукашенко, заявив, что президент Беларуси изображает стабильность своей экономики, включая печатный денежный станок и наполняя республику деньгами, не обеспеченными товарами. Чубайс отметил, что, если бы они в России поступали так же, то экономика этой страны давно бы уже рухнула.

Естественно, экономическая интеграция между Россией и Беларусью с такими принципиально разными подходами к управлению экономикой невозможна. Это и показало, и доказало обесценивание белорусского рубля по отношению к доллару.

Лукашенко в своей манере ответил Чубайсу и другим политикам в Москве, заявив на встрече с журналистами в Минске: «Обвал белорусского рубля произошел не в Беларуси, как пытаются представить отдельные высокопоставленные чиновники России, а на московском рынке. Здесь банкиры боятся это сделать, потому, что наказание последует немедленно. И они почувствовали, что мы контролируем весь этот процесс. Цепочка была спланирована так: обвалится рубль на московской бирже. Вторая ступень – белорусские банкиры, а третий этап – ценообразование. То, что должно было вызвать недовольство в Белоруссии – обвал цен по многим продуктам питания... Я понимаю, что есть и объективный момент. Мы поставляем в Россию и страны СНГ огромное количество товаров, но оттуда мы денег не получаем. Если точно сказать, то мы всего получаем 30 процентов валюты. А 70 процентов – это чистый бартер. Мы не живем за счет кого-то, и прежде всего России. Россия нам должна 800 миллионов долларов. Мы должны России 120, ну, 200 миллионов за энергоносители».

Повторное напоминание России о ее «долге» свидетельствует о том, что Лукашенко принял решение и не намерен отдавать долги за газ и нефть. А если со стороны России последуют санкции, то президент Беларуси обвинит московских политиков в срыве интеграции, а также в том, что сегодняшние лидеры России не хотят интеграции по его модели «сохраним все лучшее, что было в СССР».

Однако похоже, что в Москве наконец поняли, по каким сценариям играет славянский интегратор и определились, кому передать на сохранение традицию реформирования российской экономики и капиталы, нажитые на этом реформировании. А, кроме того, сообразили, в каком виде выпускать в российский телеэфир руководителей Беларуси.

19 марта в телепрограмме «Время» премьер-министр Беларуси Сергей Линг буквально умолял руководство РАО «Газпром» не снижать поставки газа и не ставить столь жесткие условия оплаты (а именно, 70 процентов стоимости – валютой).

А на Московской межбанковской валютной бирже после обвинений из уст Лукашенко в адрес биржевиков о спекуляции белорусской валютой уже дважды прекращали котировку белорусского рубля. Беларусь рискует оказаться в экономической блокаде на российских рынках.

От московских источников поступают сведения о том, что, кроме ставки на Черномырдина как кандидата в президенты на выборах в России в 2000 году, команда Ельцина сейчас решает для себя, на кого ставить в Беларуси вместо Лукашенко. Схема замены выглядит примерно следующим образом:

1. Москва в жесткой форме предлагает Лукашенко на место премьер-министра вместо Линга или Чигиря, или Мясниковича. Пока Лукашенко не соглашается, ему перекрывают «краник» газопровода.

2. Затем под эту избранную Москвой фигуру дают кредиты. Экономика выкарабкивается из кризиса, а российские СМИ создают прекрасный имидж новому премьеру.

3. Лукашенко по «армянскому» варианту уходит в отставку или его «уходят».

4. Президентом избирается премьер.

Конечно, не исключается, что при экономическом давлении со стороны Москвы Лукашенко может резко развернуться в сторону Запада. Но там для Лукашенко поставлены заведомо неприемлемые условия – ликвидировать диктаторскую Конституцию и восстановить прежние структуры власти. Получается тупик, из которого Москва при определенной решительности с ее стороны может указать только на один выход.

*В. ПОДГОЛ, кандидат философских наук.*

☺ *З АЛЬБОМА НЕСЯМЕЙНАГА*



# Для дома, для семьи, для души...

*Я не ведаў, што лёс*
*Наш ланцуг разамкне,*
*І ўсё пойдзе наўскос...*
*Не сумуйце па мне.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

☺ *ПОКАЯНИЕ*

## О болезнях

Многие приходят в храм, чтобы просить у Бога исцеления от душевных и телесных страданий. Просят за себя и за кого-то из близких. Мы должны знать, что болезнь, как правило, вызвана грехом. И не обязательно грехом конкретно, а чаще всем строем греховной жизни. Желая получить облегчение в болезни, нужно, прежде всего, глубоко покаяться. Для этого необходимо увидеть грех в себе. Нужно всем сердцем просить, чтобы Господь открыл нам наши грехи. Познав грех в себе, возненавидев его, можно начинать борьбу с ним. Если человек раскается, Господь простит ему грех, и тогда наступит исцеление. Исцеление не всегда бывает физическое, но всегда бывает. Господь посылает Свою благодать, которая дает возможность терпеть болезни, не впадая в уныние.

☺ *ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ*

## Время собирать почки

Запасаются ими, когда они начинают лишь набухать, еще не тронулись в рост. Срезают либо ветки с ними, либо коронки из 5-6 почек-побегов. Сборку ведут в сухую погоду, лучше утром, но когда спадет роса. Сушат их под навесом на сквозняке. Хранить можно более 2 лет (в льняных мешочках, картонных каробках), в хорошо проветриваемом помещении.

**Березовые почки.** Помогают при катарах желудка с повышенной кислотностью, язвенной, желче- и мочекаменной болезнях, почечной водянке, бронхите, атеросклерозе. Ванны из отвара почек очищают кожу от сыпи, лишаев, снимают зуд. Березовые почки отваривают или настаивают на спирте, водке. Отвар: 1 ч. ложка почек — 1/2 стакана кипятка; принимать внутрь по 2 ст. ложки 3 раза в день. Спиртовая настойка: 25 г. почек — на 100 г. спирта, через 8 дней принимать по 20 капель 3 раза в день. Водочная настойка: 1/2 бутылки почек на 1-водки, через 1 мес. по 40 капель 3-4 раза в день.

**Осиновые почки.** Помогают при заболеваниях суставов, легких, воспалениях мочевого пузыря, гастритах, геморрое, простудной ломоте, подагре, радикулите, обильных менструациях, как антисептическое средство, для укрепления десен. Отвар готовится — как и из березовых почек, но принимается по 1 ст. ложке 3 раза в день. Настойке (10- или 20%-ная) — по 20-40 капель за прием.

**Сосновые почки.** Собирают их в пору, когда они еще плотно сжаты (содержат смолу, эфирное масло, крахмал, витамин С, минеральные соли). Отвар помогает при бронхиальном кашле, водянке, ревматизме, можно использовать как желчегонное. Лечение нервной, сердечно-сосудистой системы, суставов — заваривают 50 г почек 1 стаканом кипятка, пьют 3 раза в день; употребляют и хвойный экстракт, т. е. сгущенный отвар. Полезны ванны из сосновых почек: заваривают 50 г на ведро воды; водная процедура — 20-30 мин.

☺ *КАЛЕНДАРЬ ПОЛЕВОДА*

## Народные приметы

С севера на юг нашей страны апрель неодинаков. И таяние снегов неодновременное, и полевые работы не совпадают. Но многие приметы сходны.

**Мокрый апрель** — хорошая пашня, изобилие снега. Словом, апрель с водою — май с травою. Если вешняя вода идет с шумом, то трава будет хорошая. Тихая вешняя вода — к худой траве.

**Закуковала кукушка** — пора посеять ранние яровые. На Благовещание (7 апреля) гроза — к теплому лету, к урожаю орехов; дождь идет — уродит рожь; просто мокро — быть грибам. На Благовещание ветер, иней и туман — к урожайному году. На "Марью — зажги снега, заиграй овражки" (14 апреля) разлив — травы будет много. Коли Евтихий (19 апреля) — день тихий, то это — к урожаю ранних яровых. А ветреный Евтихий — не сей рано яровины, а то семян не соберешь. На Акулину (20 апреля) крепкий мороз и солнце — к урожаю хлебов и гречихи. На Терентьев день (23 апреля) солнце взойдет красное в туманной дымке — удастся хлебородному году, а если выкатится из-за горы, что на ладони, — придется перепахивать озимое поле да засевать яровиной, овощами.

☺ *УЛЫБНИТЕСЬ*

Разговор по телефону:
— Мне, пожалуйста, Владимира Михайловича.
— А Владимир Михайлович умер.
— Да вы что?! От чего же?
— От гриппа.
— От гриппа? Ну, тогда это не страшно...

ххх

Чукча приходит в обувной магазин и меряет ботинок:
— Сколько стоит?
— Сорок рублей.
— Отдай за тридцать, возьму оба, однако.

● *КОНКУРС — "НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ"*

## НЕ МАГУ!..

Над няшчаснаю доляю скрыпкай
Амаці
Плача вецер спагадлівы ўночы
і ўдзень:
Беларусь — шматпакутная
хворая маці
Неразумных, аблудных, няўдзячных
дзяцей.

Хоць і ведаю, Бог справядлівы
карае
За бязроднасць, бязмоўнасць,
за п'яны разгул, —
Раўнадушна глядзець,
як народ вымірае,
Не магу — з ветрам плачу і я, —
не магу!..

*Іван ЛАГВІНОВІЧ.*

*г. Баранавічы.*

## СЭРЦА БЕЛАРУСА

Высыхалі кроплі расы
Пад лёгкім ветрам мядовым,
Не бывае нікогі пустым
Сэрца добрае з нечымсьці новым.

Сонца з луга вільгаць піло,
Забірала крышталікі лета,
Сэрца радасць зямлі аддало,
Паднялося над ёй і сусветам.

Вечнасць і небыццё ажылі,
"Да сустрэчы", — расінка шаптала
Беларусу, лісточку, зямлі —
"Не дарэмна жыла я. Не мала".

*Вольга САВУЦІНА,*
*вёска Рэчкі Івацэвіцкага раёна.*

